Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Цана 25 гр.

№ 3 (13) Вільня, 10 Траўня 1935 г. Год III

# НОВЫ ШЛЯХ

Орган Беларускіх Нацыянал-Сацыялістаў

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Кальварыйская 16 — 2 (Wilno, Kalwaryjska 16 — 2). Рэдакцыя адчынена штодня ад 10 да 3 г. дня.

„Новы Шлях“ выходзіць раз у месяц, каштуе на год 2 зл. 50 гр. на паўгоду 1 зл. 50 гр. на 3 месяцы 70 гр. Цана абвестак паводле ўмовы.

## Куды ідзе Эўропа?

Над Эўропаю навісла паважная пагроза вайны, якой ня мінуць. Калі яна распачнецца — заўтра, ці праз год — ня мае значэньня.

Усё ўлажылася ў такі спосаб, што толькі шляхам крывавага змаганьня народаў будуць вырашаны ўсе непаразуменьні паміж імі і напраўлены крыўды.

Газэты падаюць, што Эўропа ператварылася ў парахоўню і што вялікшыя дзяржавы ў прысьпешаным тэмпе выкоўваюць зброю, дасканалючы яе і ўводзячы ў армію розныя цуды вайсковай тэхнікі.

Хто проці каго выступіць з «агнём і мячом» і пры якіх абставінах—сказаць цяпер немагчыма, бо дыплёматычная падгатоўка гэтай справы вядзецца ў вялікім сакрэце. Адно толькі ясна для ўсіх, што Францыя і Нямеччына першымі распачнуць гэты крывавы танец.

Ніхто іншы, а толькі францускія капіталісты і банкіры выяўляюць найвялікшае зацікаўленьне ў тым, каб захаваць status quo ўстаноўлены Вэрсальскім трактатам, якім-бы ён крыўдным ня быў для іншых народаў.

Французы хацелі-б і надалей карыстацца з таго ўпрывілёванага палажэньня, якое яны асягнулі пасьля сусьветнай вайны і выразна імкнуцца да таго, каб пакананыя народы былі пазбаўлены назаўсёды тых правоў, якія ад іх адабралі пераможцы. Галоўным страхам для разжырэўшай францускай буржуазіі ёсьць нацыянальна-аздаравеўшая Нямеччына, каторая, дзякуючы вялізарнаму, не натаванаму ў гісторыі ўздыму нацыянальнага пачуцьця і гонару — асягнула за часоў Гітлера аграмаднай як маральнай, так і матар'яльнай сілы, і зусім слушна дамагаецца роўных правоў з іншымі народамі.

Гэтакая акалічнасьць занепакоіла не адну толькі Францыю.

Нямеччына зрабілася страшнаю не сваімі танкамі і аэроплянамі, а сваім моцным нацыянальным духам, нацыянальнаю скансалідаванасьцю грамадзянства і ягонаю адданасьцю нацыянал-сацыялістычнай ідэі і гатоўнасьцю на ўсялякія ахвяры, якімі-б цяжкімі яны ня былі.

А страшнаю яна аказалася для тых, хто імкнецца да нацыянальнага разлажэньня народаў і да іхняга маральнага ападленьня. Няма чаго дзівіцца, калі першымі, хто ўстрывожыўся нацыянальным аздараўленьнем нямецкага народу былі жыды, каторыя ў сусьветным маштабе павялі шалёную агітацыю проці нацыянал-сацыялістычнай Нямеччыны.

І павялі яе не дзеля таго, што былі вельмі пакрыўджаны праз немцаў, а толькі дзеля таго, што ўбачылі ў зрэалізаваньні нацыянальнай ідэі сьмяротную небясьпеку для свайго ўпрывілёванага становішча. Зусім слушна яны прышлі да пераканаўня, што нямецкі прыклад можа быць вельмі заразьлівым і што нацыянал-сацыялістычная ідэолёгія можа

захапіць усе народы і тады наступіць канец сусьветнаму жыдоўскаму панаваньню.

Для жыдоў засталася толькі адна магчымасьць—гэта здушыць Нямеччыну раней эканамічна, (байкот, які праводзяць жыды), а калі гэта не паможа — мілітарна і тым самым затрымаць далейшае распаўсюджаньне ідэі нацыянальнага сацыялізму.

Мы ня будзем цьвердзіць, што сучасная проці-нямецкая коаліцыя, якая шыкуецца да вайны, утварылася дзякуючы толькі жыдоўскім уплывам. Тут было шмат і іншых прычынаў, але мы пераказаны, што жыды ў гэтай справе адыгралі вельмі паважную роль.

Зусім зразумела, што Савецкі Саюз, каторы праз Камінтэрн імкнецца да сусьветнай рэвалюцыі — як галоўнай сваёй мэты, бачыць у будучай вайне адзіную магчымасьць для яе зьдзейсьненьня.

Дзеля гэтага Саветам канешна патрэбна ўцягнуцца ў вайну і выступіць з іншымі дзяржавамі проці Нямеччыны, каторая зьяўляецца асабліва небясьпечнаю для плянаў Камінтэрну.

Лінія паступаньня Саветаў зусім правільная.

Бяручы ўдзел у вайне, савецкія камуністы будуць разьбіваць цытадэль сусьветнага „фашызму“, а разбурыўшы яе пры дапамозе Францыі і ейных саюзьнікаў — вельмі лёгка будзе памагчы нямецкаму пралетарыяту ўстанавіць камуністычную дыктатуру.

Пры гэтакай аказіі ня трудна было-б, «братаючыся» з саюзнаю францускаю арміяю, разлажыць яе і скамунізаваць. Утварыўшы камуністычную дыктатуру ў Нямеччыне, а потым перакінуўшы яе ў Парыж, Камінтэрн захапіў-бы пад сваю ўладу усю Эўропу.

Трэба прызнаць, што плян гэты, з пункту гледжаньня запраўднага «Ленінізму» вельмі разумны, а самае галоўнае—зрэалізаваньне яго можна правесьці рукамі звар‘яцеўшай буржуазіі, каторая, разьбіўшы пры дапамозе савецкіх камуністаў нацыянал-сацыялістычную Нямеччыну, выкапала-б сваю ўласную магілу... Калі можна пахваліць камуністычных дыплёматаў за іхні спрыт і «очковтирательство» ў адносінах да сваіх партнёраў, то нельга гэтага сказаць адносна апошніх, бо яны заселі да гульні ў карты з дзеячамі Камінтэрну, ня маючы ніякіх шансаў на выйгрыш.

Запраўды, буржуазны сьвет ператварыўся ў дом вар‘ятаў...

Капіталістычная Францыя, тая самая Францыя, каторая сьцягнула да сябе золата з усяго сьвету, каторая, здавалася-б павінна была першаю падбаць пра зьніштажэньне Камінтэрну, як свайго сьмяротнага ворага — яна са спакойным сумленьнем засядае за адным сталом з ягонымі агентамі і чэкістамі і падрубвае той сук, на каторым сядзіць.

Капіталістычны лад збанкрутаваў на ўсіх фронтах і апошнім актам гэтага банкроцтва будзе тая вайна, каторую ён хоча вясьці разам з Камінтэрнам проці нацыянал-сацыялістычнай Нямеччыны.

Кепска гэтакая авантура магла-б закончыцца для Эропы і для ўсей людзкасьці наагул, каб запраўды маральная сіла і права ня было па старане немцаў.

Шчасьцем для ўсіх нас ёсьць тое, што нямецкі народ праз нацыянальны сацыялізм вытварыў з сябе непераможную сілу.

Мы верым, што калі дойдзе да гэтакай вайны, то буржуазна-камуністычная саюзьніцкая мешаніна будзе разьбіта, і разваліцца, у выніку чаго ідэі нацыянальнага сацыялізму запануюць на ўсім сьвеце.

І хто ведае—мо‘ якраз нямецкіх нацыянал-сацыялістаў пакліча сам-жа францускі народ, каб яны ўратавалі яго ад бязладу і анархіі, якія запануюць там у выніку сучаснай прыязьні францускіх капіталістаў з Маскоўскім Камінтэрнам...

**Ф. Акінчыц.**

---

# Канец капіталізму.

Як і ўсякае сацыяльна-эканамічнае зьявішча, так і капіталізм мае свой пачатак, мусіць мець і канец.

Быў час, калі капіталістычная форма гаспадараваньня была гістарычна неабходнаю і карыснаю для людзкасьці, бо яна прычынілася да эканамічнага і тэхнічнага поступу.

Дзякуючы капіталізму ўводзяцца розныя навукова-ўдасканаленыя спосабы вырабу, пры дапамозе каторых тавары ў неаблічанай колькасьці запаўняюць рынкі.

У меру разьвіцьця капіталістычнага спосабу вырабу ўсьцяж павялічваецца колькасьць тавараў, якія шукаюць спажыўцоў і знаходзяць іх у самых глухіх кутках зямной кулі.

Напасьледак наступіў такі момант, калі

ўвесь сьвет застаўся завалены таварамі, у выніку чаго паміж паасобнымі капіталістамі і рознымі капіталістычнымі аб'яднаньнямі пачалася жорсткая барацьба за рынкі і за сырцы, патрэбныя для вырабу фабрыкатаў. Мы зьяўляемся сьведкамі таго, як у канцы XIX і на пачатку 20 стаг. гэтакая барацьба прыняла асабліва заўзяты характар і выклікала амаль усе войны, якія адбыліся за гэты час. Але, напасьледак, эўрапэйскі капітал пачаў задыхацца, бо ў апошнія гады ён спатыкаўся з вельмі небясьпечным для сябе азіяцкім канкурэнтам.

Справа ў тым, што падчас сусьветнай вайны з хвараблівым пасьпехам пачалі разбудоўвацца фабрыкі і заводы ў Японіі, Кітаі, Індыі і іншых краёх, якія засыпалі сваімі таварамі ня толькі Азію, але стараюцца напоўніць імі Эўропу і Амэрыку.

Цэлы рад акалічнасьцяў, на каторых тут затрымлівацца ня будзем, прывёў да таго, што азіяцкі капітал ператварыўся ў паважную сілу, а ўся Азія аказалася моцна зачыненай для гаспадарчай экспансіі эўрапэйскага капіталу і гэта вытварыла гаспадарчую задуху ў Эўропе.

Палажэньне пагоршваецца яшчэ й тым, што Савецкі Саюз таксама зачыніў свае граніцы для чужаземных тавараў, абыходзячыся сваімі тандэтнымі вырабамі.

Усё гэта разам узятае давяло да таго, што ў капіталістычнай Эўропе ліквідуюцца фабрыкі, заводы і розныя гандлёвыя прадпрыемствы, а мільёнывя масы работнікаў зрабіліся не патрэбнымі і апынуліся на бруку.

Ніколі яшчэ Эўропа не перажывала такіх цяжкіх і трывожных часоў, якія яна перажывае цяпер.

Трэба не запамінаць, што яна мае больш 25 мільёнаў беспрацоўных, якім разам з сем'ямі няма куды падзецца і якія сядзяць без усякай надзеі на лепшую будучыню, прынамсі пры буржуазна-капіталістычн. умовах жыцьця.

Няма чаго дзівіцца, калі гэтая маса людзей, усьцяж павялічваецца і выбітая з жыцьцёвай каляіны — бурыцца, слушна дамагаючыся ад кіраўнікоў сучасных дзяржаў паляпшэньня сваей долі.

Але гэтыя кіраўнікі ня маюць ніякага выхаду, бо яны, будучы звычайным дадаткам да капіталістычнай сыстэмы, таксама збанкрутавалі, як збанкрутаваў і капіталістычны лад, вытварыўшы для сваей патрэбы складны і непасільны цяпер бюракратычны апарат.

Капіталізм у Эўропе не падымецца і з гэтым трэба лічыцца як з фактам ня выклікаючым ніякага сумліву.

Не памогуць тут усе праекты буржуазных эканамістаў, прапануючых розныя хітрамудрыя спосабы залатаньня таго, што ўжо аджыло і павінна замяніцца зусім адменнымі спосабамі гаспадараваньня.

Таксама не палепшаць агульнага палажэньня і войны паміж паасобнымі эўрапэйскімі народамі, паскольні яны будуць вясьціся з прычын эканамічных, маючы на мэце захапіць ад іншых капіталістаў рынкі для збыту тавараў, бо нават, каб нейкая дзяржава нешта й выйграла ад гэтакай вайны, то засталіся-б дзяржавы пакананыя, дзе гаспадарчае палажэньне яшчэ больш пагоршылася-б.

Для разьвіцьця і ўзмацненьня капіталістычнага спосабу гаспадараваньня засталася толькі абуджаная Азія, але ў гэты бок экспансыя эўрапэйскага капіталу зусім немагчыма.

Што-ж пры гэтакіх абставінах застаецца рабіць эўрапэйскім народам, што апынуліся запраўды ў крытычным палажэньні?

Адзіны ратунак тут—пераход на іншыя спосабы гаспадараваньня, рашучы зрыў з капіталізмам і нават зьніштажэньне яго як сыстэмы, каторая аджыла свой век і каторая прычыняецца толькі да павялічэньня нэндзы працоўнага народу, выклікаючы розныя агідныя зьявішчы, сьведкамі каторых мы зьяўляемся цяпер.

Капіталізм канае і мусіць памерці і дзеля таго нерацыянальна штучна падтрымліваць ягонае жыцьцё, бо ўсёроўна гэта да нічога карыснага не давядзе. Іншыя спосабы гаспадараваньня—спосабы грамадзкія павінны заступіць ягонае мейсца і аздаравіць жыцьцё людзкасьці. Перадусім капіталісты як кляса павінны быць пазбаўлены сваіх выключных правоў у кірунку арганізацыі і вядзеньня народнай гаспадаркі.

Гэтыя функцыі павінны адыйсьці да дзяржавы, каторая й будзе вярхоўным арганізатарам гаспадарчага жыцьця народаў.

Але дзяржава, каб змагчы выконваць падобныя заданьні з карысьцяй для ўсяго народу, а не для аднэй якой небудзь яго часткі, — павінна быць адпаведна перэарганізавана.

Нам патрэбна не дзяржава кіраваная капіталістамі і буржуазіяю, як гэта ёсьць да сёньняшняга дня, а дзяржава арганізаванага працоўнага народу.

Адпаведна пабудованая дзяржава пляново разьвівае народную гаспадарку і рупіцца перадусім аб нутраным рынку, гэта значыць імкнецца да ўсебаковага здаволеньня патрэбаў свайго народу. Гэтакіх патрэбаў вельмі многа і пры капіталістычнай гаспадарцы на іх не зьвяртаецца ўвагі, паскольку капіталісты імкнуцца выключна да асабістага збагачэньня, а не да зьдзейсьненьня нейкіх агульна-грамадзкіх мэтаў.

Напасьледак, усе дзяржавы, якія перашлі-б на грамадзкі лад гаспадаркі мусілі-б трымаць паміж сабою пастаянную лучнасьць, устанавіўшы тавараабмен паводле пэўнага згары распрацаванага пляну. Усё жыцьцё паасобных народаў, ня толькі эканамічнае, але і грамадзка-палітычнае і культурнае павінна быць пасьля ліквідацыі капіталізму перабудавана з такім абрахункам, каб даць людзкой грамадзе запраўды людзкое існаваньне.

А для гэтага патрэбны вялізарныя высілкі паасобных народаў, якія павінны нацыянальна ўзмоцніцца і вытварыць з этніч-

ных масаў моцныя і сьведамыя сваіх мэтаў нацыі.

У гэтакіх адроджаных нацыях зусім непатрэбны будуць паразітныя элементы, каторыя ўстрымліваюць цяпер поступ людзкасьці, паскольку яны коштам нэндзы і цемры працоўнага народу павялічваюць свае багацьці і капіталы.

У асяродзьдзі адроджаных народаў не патрэбны будуць і этнічна чужыя элементы, каторыя, як напрыклад жыды, высмоктываюць усе жывыя сокі з таго народу, сярод каторага яны жывуць.

Што датычыць жыдоў, якім капіталістычны лад прыносіць вялікія карысьці, то яны змушаны будуць, запраўды, падбаць пра сваю ўласвую тэрыторыю і дзяржаву, дзе падобна іншым народам, змаглі-б арганізавацца згодна свайму нацыянальнаму характару, звычаям і гісторыі.

Новы грамадзкі і эканамічны лад наступіць не з прычыны таго, што мы яго хочам, або таму, што існуючы лад нам не падабаецца. Ён мусіць наступіць як гістарычнанямінучае зьявішча, якое вымагаецца ўсімі абставінамі сучаснага жыцьця. Ад гэтакай перамены пацерпяць толькі эксплёатуючыя багацейшыя клясы, бо яны страцяць капіталы, якія нажылі, але рэшта людзей толькі выйграе, бо яна атрымае права на людзкое існаваньне.

Паскольку дабро Беларускага народу павінна быць у нашых чынах і разважаньнях на першым мейсцы, то мы перакананы, што ад увядзеньня ў жыцьцё новых парадкаў народ наш, акрамя ўсяго іншага, атрымаў-бы шырокія магчымасьці да нацыянальнага і культурнага поступу.

Ф. А.

---

## Да справы чарговага абнаўленьня Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

12-га траўня 1935 г. адбудзецца сход абноўленага Б.Н К-ту на 1935—1936 г.

Беларускі Нацыянальны Камітэт ёсьць цантральнаю арганізацыяю беларусаў, куды ўваходзяць прадстаўнікі ад усіх палітычных партыяў і арганізацыяў, якія падзяляюць беларускую нацыянальна-незалежніцкую ідэолёгію.

Мэты Камітэту — змаганьне за палепшаньне палітычнага і сацыяльна-эканамічнага палажэньня Беларускага народу і нацыянальнае ўзмацненьне яго. Беларускія нацыянал-сацыялісты, якія лічаць, што толькі шляхам утварэньня фронту нацыянальнай еднасьці ў барацьбе за элемэнтарныя правы Беларускага народу магчыма асягнуць пазытыўныя вынікі і нават зьдзейсьніць свае нацыянальныя ідэалы,—ад самага пачатку існаваньня Беларускага Нацыянал-Сацыялістычнага Актыву, — уступілі ў сябры Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў мэтах супрацоўніцтва на гэтым грунце з іншымі палітычнымі і грамадзкімі арганізацыямі, якія былі ў гэтым Камітэце.

Уваходзючы ў Б.Н.К. нацыянал-сацыялісты маюць намер шчыра і сумленна працаваць там для дабра Беларускага народу і дзеля таго будуць уважна прыглядацца да кожнай арганізацыі і асобы, каб яны запраўды былі дзейнымі сябрамі і каб іхняя прысутнасьць у Камітэце прыносіла карысьці як гэтаму апошняму, так і наагул усяму Беларускаму народу.

Мы пасылаем сваіх сяброў у Б.Н.К. не для таго, каб яны там займалі толькі мейсца, а для таго, каб яны стаялі за аўтарытэт гэтай Беларускай цантралі і прычыніліся да папулярызацыі тых ідэяў, правадніком якіх заўсёды быў Камітэт. З гэтага пункту гледжаньня нашыя прадстаўнікі будуць сачыць

---

## Ня ў нас вясна.

Вясна. Сонца. Жыцьцё. Радасьць...

Ня ў нас браты.

Зіма вяковая марозіць нашыя душы. Страшная мяцеліца завявае нашыя палеткі, плюе людзям у вочы.

Людзі... Запужаныя. Не адважываюцца выставіць галавы з хаты. Сядзяць. Выглядаюць пагоды. Чакаюць перамены.

А бура вые, плюе, рагоча. Мароз цісьне...

Чорныя хмары навісьлі над усей Краінай.

А над запужанымі крывіцкімі хатамі ўеяца ў змаганьні дух Беларускай Нацыі. Ён прабуе разагнаць хмары, барацца з мяцеліцай, б'ецца ў сэрцах прыгнечанага народу, сьвеціць надзеяй у ягонай душы.

— Сонца!

Вясны!

Жыцьця!

Радасьці!—загаласіў у роспачы беларускі народ.

— Ха, ха, ха!—зарагатала цемра:

Просяць?!..

Жабракі!..

Рабы!..

Умеюць толькі плакаць і прасіць!..

Засыпаць іх сьнегам!

Закаваць навекі лёдам няволі!..

Няма месца мляўкасьці цяпер на сьвеце! Засумаваў дух Беларускай Нацыі, убачыўшы ўбогасьць волі свайго народу. Памкнуўся з большым імпэтам па ўсей Беларускай Краіне. Парываў сэрцы, запаліваў у душах жыцьцёвую бадзёрасьць, дадаваў сілы волі, адвагі і ўканцы вуснамі працоўнага народу загаласіў:

— Далоў страх!..

за тым, каб і ў прэзыдыюм Б.Н.К. увайшлі асобы дастойныя гэтага становішча, заслужыўшыя на грамадзкі давер сваею працаю і шчыраю адданасьцю беларускай нацыянальнай ідэі.

Мы ня можам пагадзіцца з тым, каб у Прэзыдыюме Б.Н.К. былі, напрыклад, такія асобы, якія думаюць, што робяць ужо многа, калі ўважаюць сябе за беларусаў, а сваей працай цалком аддаюцца чужынцам, або такія, якія маючы найбольш магчымасьці працаваць для адраджэньня і арганізаваньня Беларускага народу—выяўляюць карыгоднае нічоганяробства. Напасьледак, глянем праўдзе ў вочы і назавём рэчы паіменна. Нам выдаецца зусім не задавальняючаю, напрыклад, праца Ф. Ярэміча. Ён як сябра Камітэту не праяўляе ніякай дзейнасьці і нават дапусьціў да заніпаду свой „Сялянскі Саюз“, каторы фактычна цяпер застаўся толькі на паперы. Такая бяздзейнасьць адзінага беларускага пасла ёсьць карыгоднай ня толькі з пункту гледжаньня партыйнага, але і з пункту гледжаньня ўсяго беларускага грамадзянства. У цяперашніх беларускіх абставінах беларускі пасол мусіць выяўляць максімум энэргіі.

Трэба дадаць яшчэ і тое, што Ф. Я. які ёсьць паслом у Сойме ад імя Б. Н. К-ту і павінен быў вясьці ягоную палітычную лінію, апошнім часам выявіў у адносінах да Камітэту надта многа няздысцыплінаваньня. А калі міністрам нутраных спраў Польшчы стаў З. Касьцялкоўскі, дык Ф. Я. так пачаў да пана міністра „umizgać się“, што прэзыдыюм Камітэту мусіла зьняць адказнасьць за ягоную прамову ў Сойме з дня 6.II. 1935 г.

Чаму ў кансэквэнцыі Прэзыдыюм не адклікала паўнамоцтваў, дадзеных у свой час паслу Ф. Я.—мы ня ведаем, але лічым, што гэта мусіла быць як кансэквэнцыя разьбежнасьці з ягонай прамовай у Сойме і ягоным на сваю руку дзеяньнем.

Таксама ненармальным у Б.Н.К-це мы лічым становішча В. Багдановіча. Гэта ёсьць, як кажуць людзі—душа чалавек і як чалавеку яму няма чаго закінуць. Але ў цяперашнія часы, часы жорсткага змаганьня няма месца для сантымэнтаў і гляньма на гр. В. Б. з боку беларускай справы.

Перадусім каго ён рэпрэзэнтуе ў Камітэце? „Праваслаўнае аб'еднаньне?“ Але-ж ён не прызнае праваслаўнай царквы ў Зах. Беларусі (аўтакефальнай царквы ў Польшчы). Усё праваслаўнае духавенства нашага краю разам з Варшаўскім мітрапалітам фармальна-кананічна проціў яго. А ён адзін — сьвецкі

## На прадвесьні.

Мы новай долі на прадвесьні.
Стары ўжо сьнег сьцякае проч.
Ужо дух волі грае песьні.
Ужо ня страшна цемра—ноч.

Зіма праходзіць. Ёсьць надзея,
Што звалы лёду разаб'ём.
Заціхне ворагаў завея,
Як песьні працы запяём.

Да працы, брацьця, грамадою
Фундамант новы даць страсе!
Бяз сваркаў, згоднай чарадою
З нас кожны цэгла хай нясе.

Хаця нярaз трашчаць марозы,
Грызьнёй мяцеліца плюе
І бура злосна шле пагрозы,
Нязгода ведзьмаю снуе —

Кладзема цэглы мы пад сьцены,
Каб моцны быў наш родны дом.
У нашай хаце зробім зьмены
Змаганьнем, працай і трудом.

Сьпявайма згодна сонцу песьні.
Яно асьвеціць цемру-ноч.
Мы новай долі на прадвесьні.
Стары ўжо сьнег сьцякае проч.

Ужо пралескі расьцьвітаюць.
Зямля ўжо тчэ свой новы ўзор.
Свабоды духі нас вітаюць —
Сьмялей на вольны йдзём прастор!

**Казлоўшчык.**

---

Выходзьма на родны прастор!..

Мы ж дзеці працоўнай сям'і — што нам мароз, мяцеліца хмары?!

Аглядайма свае палеткі!

Расчышчайма дарогі!

Працай і змаганьнем разаб'ем лёды вяковае зімы!

Разгонім хмары!
Змусім сонца сьвяціць нам!
Змусім прыйсьці да нас вясну!

— Ого-го!—загудзеў сівер.

— Ві і-дзі-іш ты і-іх! — засьвістала мяцеліца:

Ня просяць?!...
Ня плачуць?!..
Ня гнуцца?!..
Яны ўжо не жабракі...
Не рабы...
У іх ёсьць моц духа.

— Адступаць патроху! — загадала зіма: вораг аказываецца ёсьць моцным. Прыдзецца зьмякчыць.

Але з боем!
У змаганьні!
Дабравольна нічога!
Такі ёсьць наш і ўсяго сьвету закон...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Вясна. Сонца. Жыцьцё. Радасьць...
Ня ў нас, браты.
У нас—змаганьне за вясну.
У нас—змаганьне за сонца.
У нас—праца для будучага жыцьця.
У нас—сум для будучай радасьці.

**Ул. К.**

чалавек — даказывае ўсяму праваслаўнаму духаведству ў Польшчы, што яно мыляецца.

Якая з гэтага карысьць беларускаму адраджэньню?

Беларускай нацыянальнай справе ня важна на чыёй старане праўда і якая будзе кананічна царка, абы толькі яна была збеларушчына. А тымчасам В. Б. не збеларушчыў нават свае адзінай царквы!

Ня будзе лішнім дадаць, што ў гэтай царкве цяпер паміж некаторымі прыхаджанамі і настаяцелям маюць месца сваркі і суды. Дайшло да таго, што 2-х прыхаджан лаяла пратаярэя Л. Голада ў часе ягонага багаслужэньня. Справа гэта апынулася ў Гарадзкім Судзе ў Вільні, у выніку чаго ўлады зажадалі ад сьвяшчэніка Голада доказаў ці ягоная царква ёсьць легальная. („Gazeta Wileńska“ 23.XII. 1934 г.).

Яшчэ адна справа. В. Б. ёсьць настаўнікам расейскай мовы ў Расейскай гімназіі ў Вільні.

Можна было-бы цешыцца і спадзявацца, што ў гэтай гімназіі будуць вялікія беларускія ўплывы, бо аж сам віцэ-старшыня Б.Н.К-ту выгадоўвае моладзь. А тым часам, ня было ніводнага выпадку, каб які-небудзь матурыст расейскай гімназіі запісаўся ў Беларускі Студэнцкі Саюз, тады як з польскіх гімназіяў, дзе няма беларускага настаўніка, штагод у гэты саюз паступае некалькі студэнтаў. Трэба дадаць яшчэ, што ў расейскую гімназію ідуць пераважна абмаскоўленыя беларусы і пры адпаведнай працы можна было-бы шмат каго навярнуць на правільную дарогу. Калі ўзяць яшчэ пад увагу тое, што В. Б. не праўляе ніякага беларускага ўплыву ў шмат якіх расейскіх арганізацыях, дзе ён зьяўляецца дзейным працаўніком — сьмела можна цьвердзіць, што ён, як віцэ-старшыня Камітэту, ня прыносіць апошняму ніякай карысьці.

Цяпер, калі трэба змагацца за кожную арганізацыю, за кожны гурток — мала называць сябе беларусам—трэба энэргічна дзеяць і змагацца.

Каб пабудзіць арганізацыі да працы, нам здаецца, што Камітэт не павінен прыймаць у свае сябры прадстаўнікоў арганізацыяў, не выяўляючых ад даўжэйшага часу ніякай дзейнасьці і фактычна існуючых толькі на паперы.

Мы маем надзею, што з чарговым абнаўленьнем Бел. Нац. Кам.—абновіцца і ягоны Прэзыдыюм, каторы ані з боку грамадзкага, ані з нацыянальнага ня будзе мець ніякіх закідаў, што бязумоўна прычыніцца да ўзмацненьня ягонага аўтарытэту сярод Беларускага народу.

Мы верым, што нашыя сябры, дэлегаваныя ў Камітэт выканаюць усе нацыянальныя і грамадзкія абавязкі, якія будуць вымагацца цяжкімі абставінамі, выпаўшымі на долю Беларускага народу.

---

# Каму гэта патрэбна?

(*„Клясавая“ барацьба на Зах. Беларускіх землях*).

Тэорыя клясавай барацьбы, распрацаваныя К. Марксам і ягонымі вучнямі, знаходзіць і на нашых землях сваіх прыхільнікаў, згуртаваных пераважна ў камуністычнай партыі.

Падставы гэтай тэорыі, браўшай пад увагу краіны з разьвітаю прамысловасьцю, яны стараюцца прытарнаваць да асяродзьдзя беларускага сялянства, якое дзякуючы пасьляваеннаму крызысу даведзена ўва ўсёй сваей масе (бяз розьніцы „клясаў“) да жабрацкай торбы.

Ня гледзячы на гэтакія, зусім відавочныя абставіны, камуністы дзеляць яго на „клясы“, знаходзячы тут г. зв. кулакоў і робяць гэта з яўна выражанаю мэтаю—штучна разьбіць сялянскую масу на варожыя групы. Шукаючы так старанна „клясавага ворага“ сярод сярмяжнага люду, „абаронцы працоўных“ зусім не зьвяртаюць увагі на тыя паразітныя элемэнты, каторыя будучы чужымі і расава і гаспадарча для беларускай вёскі, зьяўляюцца запраўдным бічом нашага народу.

Маем на ўвазе ліхвярскі капітал руйнуючы вясковую гаспадарку і высмоктваючы з яе ўсе жывыя сокі. Уласьнікамі гэтага капіталу, як вядома, зьяўляюцца выключна жыды, каторыя зусім падпарадкавалі беларускую вёску сваёй гаспадарчай уладзе і ператварылі яе ў сваю калёнію. Роль жыдоў пры сучасных абставінах жыцьця Зах. Беларусі запраўды жудасная і яшчэ больш жудаснымі будуць насьледкі існуючага стану рэчаў, калі нічога ня зьменіцца на лепшае.

Аднак, ня гледзячы на ўсё гэта, мы ня чуем якой-небудзь трывогі з боку камуністычных „абаронцаў“ працоўных. Яны старанна абыходзяць моўчкі парушаную намі справу, залічаючы да праяваў „фашызму“ і чорнай рэакцыі нават зусім бесстароннае і абапёртае на фактах выяўленьне гістарычнай праўды. І гэта зусім зразумела, бо фактычна камуністычны інтэрнацыянал рашчышчае дарогу да сусьветнага жыдоўскага панаваньня. Гэтым толькі й можна вытлумачыць той, на першы пагляд незразумелы факт—чаму гэта камуністычная партыя сыстэматычна і плянова стараецца адвярнуць увагу беларускага сялянства ад галоўнага ліха, якое родзіць усе іншыя, і скіроўвае яе ў бок клясавай барацьбы. У парадку зашчапленьня беларускаму сялянству „клясавай сьведамасьці“ камуністы забіваюць клін у адзіную працоўную сям'ю сялянства і, дзеючы ў супольным фронце з усімі ворагамі беларускага адраджэньня, падбухторваюць нясьведамыя масы проці беларускай інтэлігенцыі.

У гэтакі спосаб устрымліваецца разьвіцьцё нацыянальнай салідарнасьці Беларускага народу, што фактычна і зьяўляецца галоўнаю мэтаю камуністаў, жыдоў і польскіх шовіністаў.

Наагул трэба заўважыць, што сама тэ-

орыя клясавай бурацьбы, распрацаваная жыдоўскімі эканамістамі, патрэбна сусьветным інтарэсам жыдоў для адвярненьня ўвагі ад барацьбы нацыяў і расаў. Яна патрэбна для таго, каб разьбіваючы нацыянальную салідарнасьць арыйскіх народаў аслабляць іхнюю барацьбу проці жыдоў і гэтым самым аблягчыць апошнім захапленьне панаваньне над усім сьветам.

Разглядаючы крытычна гэты марксоўскі „закон", насоўваюцца паважныя пытаньні — ці запраўды ўсе гістарычныя падзеі і выпадкі можна вытлумачыць як вынікі барацьбы клясаў.

На наш пагляд сутнасьцю гістарычных падзеяў ёсьць тое новае ў жыцьці людзкой грамады, каторае ўнясла ў яго пэўная нацыя, якіх яна даканала зьменаў, што яна стварыла ў галіне грамадзкага жыцьця, дзяржаўнага, рэлігіі, мастацтва, навукі і г. д.

Найгалаўнейшым зьместам падзеяў ёсьць творчасьць адзінак, народаў, рас—творчасьць людзкасьці наагул.

Усё іншае, а ў тым ліку і барацьба клясаў, мае другарадны характар. Тлумачэньне ўсіх гістарычных падзеяў барацьбою клясаў зьяўляецца вузкім і ненавуковым.

Запраўды, трэба мець багатую „навуковую" фантазію, каб лічыць, што напрыклад, цуды індыйскай архітэктуры, драмы Шэкспіра і наагул творы вялікіх паэтаў, навука Хрыста, ці то філёзофія, стварэньне манархіі Карла Вялікага, паходы Гуннаў, Крыжакоў і г. п. зьявішчы і здарэньні—усе яны знаходзяцца ў сьціслай залежнасьці ад барацьбы клясаў.

Барацьба клясаў і партыяў мае сваё мейсца выключна ў палітычным жыцьці грамадзянства, але яна не пакрывае сабою ўсяго жыцьця людзкасьці ў суцэльнасьці. Яна разбурвае грамадзянства і зьяўляецца неабходным злом, катораму ў будучыні не павінна быць месца сярод народаў, перабудаваўшых сваю сацыяльна-эканамічную арганізацыю на больш дасканальных падставах.

Але побач з гэтым наглядаецца барацьба народаў і расаў, каторая падчас прымае востры і бязьлітасны характар.

Напасьледак, змагаюцца паміж сабою і адзінкі, што вельмі выразна выяўляецца ў сучасны крызысовы час, калі людзі змагаюцца за працу, за кавалак хлеба, адначасна належучы да аднае і тае самае клясы.

Мімаволі паўстае пытаньне, — чаму гэта жыдоўскія ідэолёгі барацьбы клясаў зьвярнулі такую вялікую ўвагу выключна на гэты від барацьбы, памінуўшы ўсе іншыя віды змаганьня, якія наглядаюцца на сьвеце?

Ды толькі таму, што гэтакі „закон" найбольш карысны для сусьветных інтарэсаў жыдоў, якія ад вякоў імкнуцца да разбурэньня ўсіх няжыдоўскіх народаў.

Нацыянальная ідэя, якая залічаецца „радыкальным" і камуністычным адламам да праяваў рэакцыйнасьці і фашызму зьяўляецца найгалаўнейшаю перашкодаю да трыумфальнага паходу жыдоў.

І таму няма нічога дзіўнага, што яны, ці то згуртаваныя ў сінагогах, ці ў камуністычнай партыі, — вядуць рашучую барацьбу з усялякімі праявамі нацыянальнай кансалідацыі іншых народаў.

Гэта мы можам наглядаць у Нямеччыне з таго часу, як там утварыўся нац.-сацыялістычны ўрад Гітлера, тое самае мы бачым у некаторых іншых краёх, дзе нацыянальная ідэя перамагла інтэрнацыянальную.

На Зах. Беларускіх землях мы зьяўляемся сьведкамі таго, як жыды праз камуністычную партыю і іншыя свае агентуры вядуць дэструкцыйную працу адносна ўсяго нашага грамадзкага жыцьця, а беларуская інтэлігенцыя топчацца ў балота як толькі яна становіцца на чыста нацыянальны шлях і як толькі выпадае із сфэры жыдоўска-камуністычных уплываў.

Замест нацыянальнай ідэі нам падсоўваецца інтэрнацыянальная, замест нацыянальнай кансалідацыі — клясавая барацьба, што канчальна аслабляе сілу Беларускага народу. Толькі ў гэтакі спосаб мы можам зразумець тую пляновую акцыю, якая вядзецца на нашай вёсцы і якую называюць камуністы паглыбленьнем клясавай сьведамасьці працоўнага сялянства.

Паглыбленьне гэтакай „сьведамасьці" зьўляецца паглыбленьнем нашага нацыянальнага няшчасьця, каторае пры пэўных абставінах можа прывесьці да нацыянальнай загубы Беларускага народу. С. Булат.

---

# Пісьмо з правінцыі.

Рэдакцыя з прычыны нястачы мейсца наагул карэспандэнтам у газэце не адказвае. Для ніжэй зьмешчанага пісьма робіцца вынятак дзеля ягонага цікаўнага і пацешаючага зьместу.

Паважаны таварыш рэдактар! Прачытаўшы некалькі нумароў Вашай газэты, я пераканаўся, што яна піша праўду, не баіцца праўды казаць проста ў вочы і галосіць карысную беларусам ідэолёгію. Дзеля гэтага я хацеў-бы пасупіць у вашыя сябры і шчыра працаваць з Вамі.

Я ад даўжэйшага часу спачуваў камуністам і думаў, што там нам збаўленьне і часта на гэтым грунце спатыкаўся з сваімі сябрамі беларусамі, што падзялялі такую самую як я ідэолёгію. Але калі я пачаў здабываць давер у колах блізкіх да К.П.З.Б. і калі мяне як кандыдата ў гэтую партыю пазнаёмілі з блізкімі да яе людзьмі і камуністычнымі кіраўнікамі, дык я ўбачыў і пераканаўся, што калі прыдзецца быць сябрам К.П.З.Б. то трэба будзе цалком падпарадкавацца і слухаць жыдоў і то куды малодшых ад мяне. Ад гэтых жыдоў я даведаўся, што незалежнасьць Беларусі паводле іх—„ерунда". Галоўнае гэта—„ўсемірная рэвалюцыя".

Я пераканаўся, што мне з імі не падарозе, бо я кахаю свой край і хачу каб беларус быў гаспадаром у сваёй зямлі, а жыдом пра Беларусь хай галава не баліць. Дайшло

да таго, што я моцна пасварыўся з жыдкамі і яны цяпер на мяне надта злыя і нават мне пагражаюць.

Дзеля таго, што Вы, як відаць з газэты, працуеце для дабра беларускіх працоўных, я шчыра хацеў-бы быць вашым сябрам. З камуністамі я парваў назаўсёды і не стыдаюся прызнацца, што я дагэтуль быў на блуднай дарозе.

Вёска Мелінкаўцы. (Подпіс ня друкуем, каб не зрабіць карэспандэнту магчымай прыкрасьці з боку варожых яму элемэнтаў.—*Рэд*).

*Ад Рэдакцыі*: Надта нас усьцешыла Вашае, паважаны грамадзянін, шчырае пісьмо. Вы зусім слушна шукаеце апоры ў нас, расчараваўшыся ў камуністах. Вы ў нас знойдзеце тое, чаго вашая беларуская душа шукае, а чаго няма ў міжнародным камунізьме. У нас знойдзеце рупліваць перадусім пра беларускі пролетарыят і агулам усіх працоўных беларусаў, знойдзеце патрыятызм, якога так баіцца камуністычная ідэолёгія. Ваш сацыялістычны радыкалізм і патрыятызм знойдуць у нашай ідэолёгіі поўнае задаваленьне.

У фактычныя сябры Вас прыняць яшчэ ня можам, бо наагул яшчэ сяброў не набіраем. Мы цяпер толькі распаўсюджваем нашую ідэолёгію і падгатаўляем кадры будучых кіраўнікоў партыі. Вы магчыма можаце быць у будучыні адным з такіх кіраўнікоў, бо, як відаць з вашага пісьма, здаецца Вы перайшлі ў жыцьці практычную грамадзкую школу і маеце здаровы крытыцызм.

Пагрозаў камуністаў ня бойцеся. Калі Вы ня былі сябрам К.П.З.Б., а толькі спачувалі і пазнаўшы дакладней, што там робіцца — расчараваліся, дык маральна і этычна Вы ў парадку і жыдкі-камсамольцы ня маюць падстаў вам пагражаць. Наадварот, Вы маеце поўнае права паказаць ім пад нос цяжкую мужыцкую мазалістую далоню, калі яны будуць мяшацца да беларускай справы.

Учытывайцеся добра ў нашую гэзэту і старайцеся распаўсюджваць і бараніць яе ідэолёгію.

## На нашым фронце.

— 28.XI. 1934 г. Гарадзкі Суд у Вільні засудзіў нашага рэдактара на 2 тыдні арышту і 50 зл. штрафу за сканфіскаваны артыкул у № 2 (4) „Новага Шляху", у якім праводзілася параўнаньне адносінаў да жыдоў і беларусаў даўнейшай Польшчы з адносінамі да гэтых-жа народаў цяперашняй Польшчы.

Рэдактар злажыў быў апэляцыю ў Акружны Суд у Вільні. Гэтая справа там разглядалася 28.III. 1935 г. і суд адлажыў яе дзеля праслуханьня сьведкі-паліцыянта, які забраў сканфіскаваны часапіс.

— 30.I. 1935 г. Гарадзкі Суд у Вільні засудзіў рэдактара Ул. Казлоўскага на 3 тыдні арышту і 100 зл. штрафу, у выніку канфіскаты нашага часапісу № 4 (6) з 1934 г. „Вырок" у гэтай справе кажа, што ў К... „прадставіў касьцёл і царкву як інстытуцыі, пашыраючыя палянізацыю і русыфікацыю і нацыянальную цемру, а так-жа закідаючы польскім установам „фаворызоване" на пасадах палякоў з крыўдай для беларускай інтэлігенцыі і ўзнаючы віну абвінавачанага датычна зьмяшчэньня ў часе і мейсцы вышэй апісаным непраўдзівых і могучых выклікаць публічны нясупакой ведамасьцяў аб вынарадаўленьні беларускага народу прыпомачы касьцёла і каталіцкага духавенства, царквы і праваслаўнага духавенства, а так-жа праз коопэратывы—за даказаную"...

Усё беларускае грамадзянства і тутэйшых польскіх дэмакратаў, знаючых сытуацыю на беларускіх землях — просім на гэты прысуд зьвярнуць увагу.

Апрача вышэй апісаных шыкуецца нам яшчэ трэці суд за канфіскату „Новага Шляху" № 1 (11) з 1935 г. Абвінавачваецца больш-менш за тое самае як і ў вышэй зьмешчаным прысудзе.

— У Беларускі Нацыянальны Камітэт на 1935—1936 год прадстаўнікамі ад Беларускіх Нацыянальных Сацыялістаў выдэлегаваны наступныя асобы: **Фабіян Акінчыц, Уладыслаў Казлоўскі і Павал Арцішэўскі.** Калі ўзяць пад увагу, што некалькі нашых сяброў увойдуць у Камітэт ад іншых беларускіх арганізацыяў у Вільні, дык мы будзем мець у Камітэце даволі сільнае прадстаўніцтва.

— Інжынер Лявон Дубейкаўскі, ведамы стары беларускі дзеяч і вялікі патрыёт прыступіў да дзейнай працы ў кірунку распаўсюджаньня Беларускай Нацыянал - Сацыялістычнай ідэолёгіі. Аказываецца, што інжынер Л. Д. гадаваў у душы сваей нац.-сацыялістычную ідэолёгію ўжо ад 1919 году, калі ён з гр. Лявонам Зайцам, будучы на эміграцыі (Варшава, Бэрлін) пастанавілі залажыць групу „Народных Сацыялістаў". Паводле слоў самога інж. Дубейкаўскага, ён і ягоны сябра Лявон Заяц не згаджаліся ані з ідэолёгіяй „Беларускай Сацыялістычнай Грамады", якая прызнавала тэорыю Маркса, ані з правымі беларускімі партыямі. Дзеля гэтага яны пастанавілі тады залажыць групу „Белар. Народных Сацыялістаў". Аднак, дзякуючы не спагадным абставінам, як эміграцыя і іншыя, не змаглі яны гэтай ідэолёгіі выявіць навонак і распаўсюдзіць.

— У Стаўпеччыне паўстала некалькі Бел. Нац.-Сацыялістычных сябрынаў, якіх заданьнем ёсьць распаўсюджваньне Нац.-Сацыялістычнай ідэолёгіі і гуртаваньне каля сябе аднадумцаў на падставе ўзаімапомачы і таварыскасьці.

— Выйшаў з друку сьпеўнік св. памяці Альбіна Стэповіча „За Бацькаўшчыну". Песьні працы і змаганьня.

Выданьне Літаратурна-Мастацкай Сэкцыі Б.І.Г.іК. Прыгожае. З партрэтам аўтара. Кожны дзейны беларус, а перадусім Нац.-Сацыяліст павінен набыць сабе гэты патрыятычны сьпеўнік. Цана разам з перасылкай—75 гр. Хто прышле падпіску на „Новы Шлях" ня менш як на паўгода г. з. 1 зл. 50 гр. — той атрымае сьпеўнік, як прэмію, дарма.

Рэдактар і выдавец: Ул. Казлоўскі Галоўны рэд.: Рэдакцыйная Калегія
Белар. Друк. ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1—3.